# наша ПРАВА

Інфармацыйны бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"

№ 3 студзень 2000



адрэса для допісаў: а/с 90 Наваполацак-7 211440 тэл.\факс (8-02144) 5-41-30 e-mail: andy@nvp.belpak.vitebsk.by


# СЭМІНАРЫ ПРАЦЯГВАЮЦЦА

**Шэраг сэмінараў-трэнінгаў, якія ладзяць наваполацкія прадстаўнікі Праваабарончага Цэнтру "Вясна" для школьнікаў гораду, пасьпяхова працягваецца. 29 студзеня мае адбыцца ўжо восьмы сэмінар, які пройдзе ў гімназіі.**

Першыя сэмінары ў лістападзе мінулага году прымала сярэдняя школа №3. У сьнежні трэнераў зь Берасьцейшчыны Юрыя Шульгана і Алега Далгаполава, а таксама гарадзенцаў Зьміцера Чобата й Алену Фядулаву сустракала СШ №5. У студзені праваабаронцы праводзяць адразу 4 сэмінары -- па два ў 4-ай школцы ды гімназіі.

Перавагі інтэрактыўнае мэтодыкі навучаньня відавочныя. Школьнікі выдатна ўспрымаюць інфармацыю, што падаецца маладымі трэнерамі праз гульні й практыкаваньні. Ніякіх лекцыяў, ніякага маралізатарсва ды нудоты -- толькі свабодная атмасфэра й супрацоўніцтва! Зрэшты, такім чынам значна лягчэй ня толькі даверыць падлеткам пэўныя юрыдычныя веды, растлумачыць асноўныя правы, але і стварыць у іх адпаведны ўзровень прававое самасьвядомасьці.

Водгукі аб сэмінарах у школьнікаў і іх настаўнікаў -- толькі станоўчыя. Людзі разумеюць, што сёньня на Беларусі нельга абыйсьціся бязь ведаў сваіх правоў і ўменьня патрабаваць іх выкананьня.

У лютым наваполацкія прадстаўнікі "Вясны" плянуюць правесьці каля 4 сэмінараў у школках гораду.



*Дырэктар праекту **Зьміцер Салаўёў** (Наваполацак) і адзін зь лепшых беларускіх трэнераў, што працуюць па інтэрактыўнай мэтодыцы **Юры Шульган** (Берасьце)*



*Трэнер **Уладзіслаў Тоўкач** (Наваполацак) падчас сэмінару ў СШ №3*



*Алег Далгаполаў (Берасьце) і вучні наваполацкае СШ №5*

## У НУМАРЫ

## Грамадзкая прыёмная

*НАВАПОЛАЦАК.* У 1998 годзе сп.Д. скончыў вышэйшую навучальную установу. У сьнежні таго-ж году Саветам міністраў краіны была прынятая пастанова аб абавязковым размеркаваньні выпускнікоў-бюджэтнікаў усіх дзяржаўных ВНУ Беларусі. Згодна з гэтым дакумантам наймальнік ня мае права звольніць разьмеркаваных да яго выпускнікоў напрацягу 2 гадоў пасьля іхнага разьмеркаваньня.

Сп.Д. хацеў скасаваць працоўную дамову са сваім наймальнікам, але той адмаўляў яму, спасылаючыся на вышэйзгаданую пастанову ўраду. Аднак, як вядома, закон ня мае зваротнай сілы. Сп.Д. быў накіраваны на працу ўлетку 1998 году, гэта значыць да прыняцьця дакуманту. Гэты факт дае падставы аспрэчваць дзеяньні наймальніка. Менавіта гэткую параду даў сп.Д. юрыст Праваабарончага Цэнтру "Вясна", што разглядаў ягоны зварот у грамадзкую прыёмную.

# Болей за 150 чалавек зьвярнулася ў грамадзкую прыёмную Праваабарончага Цэнтру "Вясна" ў Наваполацку

*НАВАПОЛАЦАК.* Скарга ў Наваполацкую пракуратуру на дзеяньні гэнэральнага дырэктара вытворчага аб'яднаньня "Палімір" была складзеная юрыстам ПЦ "Вясна". У Цэнтар зьвярнулася спн.М. У 1984 годзе, працуючы на ВА "Палімір" яна атрымала вытворчую траўму. У 1993 годзе ёй была прызначаная трэцяя група інваліднасьці. У выснове аб умовах і характары працы было запісана, што ёй можа быць прадастаўленая праца фільершчыцы альбо лабаранта бяз доўгае хаданіны ці стаяньня. Аднак гэтая ўмова прадпрыемствам выкананая не была. Зварот да гэнэральнага дырэктара "Паліміру" застаўся без разгляду, што прымусіла юрыста Праваабарончага Цэнтру зьвярнуцца ў пракуратуру.

*НАВАПОЛАЦАК.* У грамадзкую прыёмную Наваполацкага прадстаўніцтва Праваабарончага Цэнтру "Вясна" зьвярнулася спн.П. Суд прызнаў яе нядзеяздольнай, з-за чаго галоўны ўрач наркалягічнага дыспансэру прызначыў ёй апекуна. Жаданьне самой жанчыны пры выбары апекуна ня ўлічвалася. Тым часам, паміж імі яшчэ да рашэньня суда склаліся далёка ня лепшыя адносіны. Па словах спн.П., Апякун не выконвае сваіх абавязкаў -- жанчына сама ходзіць у краму, плоціць за камунальныя паслугі. Гэтае сьведчыць аб тым, што рашэньне суда аб прызнаньні спн.П. нядзеяздольнай не адпавядае рэчаіснасьці. Апекун таксама прызначаны жанчыне безпадстаўна і з адзінай мэтай -- прапісацца ў кватэру сваёй падапечнае.

Юрыст ПЦ "Вясна" склаў скаргу ў пракуратуру Наваполацку. Там яна была разгледжаная й накіраваная для далейшага высьвятленьня абставінаў у гарвыканкам.

# "Тэрарыста" знайшлі і... звольнілі

Алесь Сарнацкі, сябра Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96", зранку 20 студзеня прыйшоў на працу ў цэх вагона-рамонтнага заводу. Майстар цэху паведаміў яму, што яго чакае міліцыя. Пазьней да Алеся падыйшоў палкоўнік міліцыі і, не назваўшыся, загадаў А.Сарнацкаму паказаць сваю шафу. У шафе міліцыя нічога не знайшла, акрамя маленькай налепкі "STOP LUCA". Палкоўнік запытаў Алеся, каму належыць налепка. Сарнацкі сказаў, што яму. Супрацоўнікі міліцыі затрымалі А.Сарнацкага і без тлумачэньняў даставілі ў будынак Маскоўскага РАУС г.Менску. Там яго пратрымалі каля дзьвюх гадзінаў і, ня склаўшы ніякіх пратаколаў і не патлумачыўшы падставаў затрыманьня, адпусьцілі. Але ў РАУСе Алесь пачуў, як адзін супрацоўнік міліцыі казаў, што сёньня ў міліцыю патэлефанаваў невядомы і паведаміў, што ў шафе А.Сарнацкага знаходзіцца бомба.

Калі А.Сарнацкі вярнуўся на працу, намесьнік дырэктара прадпрыемства ў настойлівай форме запатрабаваў, каб Алесь напісаў заяву на звальненьне па асабістаму жаданьню, што той і вымушаны быў зрабіць.

А.Сарнацкага звольнілі з заводу, дзе ён выконваў даволі цяжкую працу - фарбаваў вагоны. Праца гэтая не прэстыжная і побач з Алесем працаваў даволі спэцыфічны кантынгент, судзімыя й асобы, што злоўжываюць алькаголем. Відаць, кіраўніцтву прадпрыемства гэтыя людзі больш патрэбныя. Варта нагадаць, што А.Сарнацкі займае актыўную грамадзкую й палітычную пазыцыю, не аднойчы затрымліваўся за ўдзел у акцыях пратэсту. Верагодна, менавіта гэта стала прычынай інцыдэнту.

*Валянцін Стэфановіч*

Наша ПРАВА
Інфармацыйны бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"
№3
Студзень-2000
Рэдактар:
Андрэй Аляксандраў
Наклад:299 асобнікаў
Распаўсюджваецца бясплатна на правах рукапісу.
Бюлетэнь зьвярстаны й выдадзены на абсталяваньні Праваабарончага Цэнтру "Вясна"
Кантактаваць з рэдакцыяй магчыма:
па тэлефоне альбо факсе
(8-02144) 5-41-30
па адрэсе
а\с 90, Наваполацак-7, 211440
па электроннай пошце
andy@nvp.belpak.vitebsk.by

# Новы наступ на свабоду прэсы

**З 27 сьнежня 1999 года ўступілі ў дзеяньне папраўкі ў артыкул 5 Закона аб друку. Адгэтуль распаўсюджваньне інфармацыі ад імя палітычных партыяў, прафэсійных саюзаў ці іншых грамадзкіх аб'яднаньняў, якія не прайшлі дзяржаўную рэгістрацыю альбо перарэгістрацыю прызнаецца злоўжываньнем свабодай масавай інфармацыі .**

На практыцы гэта азначае, што ўводзіцца забарона на апублікаваньне інфармацыі аб дзейнасьці партыяў, прафсаюзаў, праваабарончых арганізацыяў, якім адмоўлена ў перарэгістрацыі ці якія працягваюць дзейнасьць без рэгістрацыі. Такіх у сёньняшняй Беларусі вельмі шмат. Зараз усім ім фактычна зацiскаюць рот, не даючы распаўсюджваць інфармацыю аб сваёй дзейнасьці.

Калі разглядаць гэтае новаўвядзеньне літаральна, то газэтам пад страхам адказнасьці забараняецца распаўсюджваць інфармацыю "ад імя" гэткіх арганізацыяў. Гэта значыць, забароненымі апынаюцца звароты, заявы ды іншыя дакументы палітычных партыяў і іншых грамадзкіх аб'яднаньняў, якія не атрымалі ў органах юстыцыі рэгістрацыйнае пасьведчаньне.

Інфармацыя іншага кшталту аб дзейнасьці партыяў, прафсаюзаў і іншых аб'яднаньняў, якія не прайшлі рэгістрацыю, можа распаўсюджвацца, у тым ліку і ад імя асобных сябраў (напрыклад, калі яны пазначуць сваю прыналежнасьць да аднаго з гэткіх аб'яднаньняў).

Тлумачэньне гэтай нормы закону можа насіць і тэндэнцыйны характар -- такбы мовіць, на карысьць інтарэсаў уладаў ці асобных яе прадстаўнікоў. Нельга выключаць, што менавіта гэткі падыход стане дамінуючым. Ворганы рэгістрацыі разам з ворганамі юстыцыі будуць адсочваць у друку любое ўзгадваньне аб "падпольных" арганізацыях і на гэтай падставе зьдзяйсьняць карную практыку ў дачыненьні да незалежных СМІ.

Юрыдычная кансультацыя

# Правы й абавязкі супрацоўнікаў міліцыі

***Згодна з Артыкулам 1 Закона "Аб міліцыі", міліцыя – гэта дзяржаўны ўзброены праваахоўны ворган, які абараняе жыцьцё, здароўе грамадзянаў, грамадзтва й дзяржаву ад злачынных і іншых супрацьпраўных дзеяньняў.***

Важна адзначыць, што закон патрабуе ад міліцыі абараняць кожнага чалавека незалежна ад ягонага грамадзянства, сацыяльнага стану, расавай ці нацыянальнае прыналежнасьці, полу, узросту, адукацыі й мовы, адносінаў да рэлігіі, палітычных ды іншых перакананьняў.

Супрацоўнікі міліцыі маюць шэраг правоў.

Міліцыя можа патрабаваць ад грамадзянаў захаваньня грамадзкага парадку. Пры падазрэньні ў тым, што пэўная асоба зьдзейсьніла правапарушэньне, супрацоўнікі міліцыі маюць права правяраць дакуманты. Міліцыя мае права праводзіць фатаграфаваньне, гуказапіс, відэаздымкі, а таксама дактыласкапаваньне (здыманьне адбіткаў пальцаў) тых асобаў, якія падвяргаюцца адміністратыўнаму арышту. Аднак гэтыя дзеяньні ёсьць *недапушчальнымі да рашэньня суда аб адміністратыўным арышце гэтай асобы.*

У адпаведнасьці з законам, міліцыя можа затрымліваць і ўтрымліваць у спэцыяльных мейсцах грамадзянаў, якія зьдзейсьнілі адміністратыўнае правапарушэньне, для складаньня пратаколу й высьвятленьня іхніх асобаў. Пры гэтым у большасьці выпадкаў тэрмін адміністратыўнага затрыманьня абмяжоўваецца 3 гадзінамі, акрамя выпадкаў, якія прадугледжаныя заканадаўствам (глядзі "Наша права" №1). Пры гэтым умовы ўтрыманьня павінныя адпавядаць элементарным санітарным і гігіенічным патрабаваньням. У гэты лік уваходзіць падтрыманьне нармальнай тэмпературы ў памяшканьні, дастатковая колькасьць мейсцаў, забесьпячэньне пітной вадой і неабходным харчаваньнем, доступ да мейсцаў агульнага карыстаньня.

Міліцыя ***не павінна*** разглашаць матэрыялы, якія знойдзеныя пры асабістым аглядзе і адносяцца да прыватнага жыцьця грамадзяніна, тым больш тыя, якія могуць ганьбіць ягоны гонар і годнасьць ці могуць пашкодзіць ягоным правам і законным інтарэсам -- напрыклад зьвесткі аб сэксуальных адхіленьнях.

Адзначым, што адным з абавязкаў міліцыі ёсьць неадкладнае паведамленьне сваякам затрыманага ці адміністрацыі на працы аб мейсцы ягонага знаходжаньня. На міліцыю таксама ўскладаюцца абавязкі забясьпечваць затрыманым рэалізацыю іх права на юрыдычную дапамогу. Напрыклад, міліцыя павінна судзейнічаць затрыманым у запрашэньні адвакату.

Адным з правоў супрацоўнікаў міліцыі зьяўляецца прымяненьне захадаў фізічнага ўзьдзеяньня, спэцыяльных сродкаў і нават агнястрэльнай зброі. У Артыкуле 18 "Закона аб міліцыі" сказана, што прымяняюцца яны ў выпадках, калі выконваньне абавязкаў прадстаўнікоў праваахоўных органаў іншым шляхам немагчыма. Згодна з Законам, іхняму прымяненьню павінна папярэднічаць, калі гэта магчыма, папярэджаньне аб намеры іх выкарыстаць.

Калі пазьбегнуць прымяненьня фізічнай сілы, спэцыяльных сродкаў ці агнястрэльнай зброі немагчыма, супрацоўнікі міліцыі абавязаны імкнуцца нанесьці як мага меншую шкоду здароўю, гонару, годнасьці й маёмасьці грамадзянаў, а таксама забяспечыць мэдыцынскую дапамогу тым, хто пацярпеў ад гэткіх дзеяньняў.

**Фізічная сіла**, у тым ліку баявыя прыёмы барацьбы, прымяняюцца дзеля таго, каб прадухіліць злачынства альбо правапарушэньне. Таксама супрацоўнікі міліцыі могуць карыстацца імі, калі сустракаюць супрацьдзеяньне сваім законным патрабаваньням, калі негвалтоўным шляхам нельга выканаць іхнія абавязкі.

**Спэцыяльныя сродкі** ўлучаюць кайданы, гумовыя палкі, сродкі зьвязваньня, спэцыяльныя хімічныя сродкі, вадамёты, бронемашыны, службовых сабакаў. Яны могуць быць выкарыстаныя толькі ў выключных выпадках. Да гэткіх дачыняюцца:

- адбіваньне нападу на грамадзянаў ці супрацоўнікаў міліцыі;
- спыненьне масавых беспарадкаў ці групавых парушэньняў грамадзкага парадку;
- адказ на супраціў законным патрабаваньням супрацоўнікаў міліцыі;
- прадухіленьне правапарушэньняў;
- затрыманьне й дастаўленьне ў міліцыю асобаў, якія зьдзейсьнілі правапарушэньне.

Як магчыма заўважыць, усе азначаныя выпадкі ня маюць канкрэтыкі і даюць шмат вольнасьці прадстаўнікам праваахоўчых органаў у выкарыстаньні спэцыяльных сродкаў. Да таго-ж, згодна з заканадаўствам, від спэцыяльнага сродку ды інтэнсіўнасьць ягонага выкарыстаньня вызначаецца супрацоўнікам міліцыі *самастойна.*



працяг -- на старонцы 8

працяг са старонкі 7

# Юрыдычная кансультацыя

# Правы ды абавязкі супрацоўнікаў міліцыі

"зыходзячы з абставінаў, характара правапарушэньня й асобы правапарушальніка".

Існуюць пэўныя правілы, якія апісваюць, так-бы мовіць, "тэхнічны" бок ужываньня спэцыяльных сродкаў. Напрыклад, пры ўжываньні гумовай палкі *рэкамэндуецца* пазьбягаць нанясеньня ўдараў па галаве й шыі. Але зноў, *рэкамэндацыя* азначае нешта, да чаго не абавязкова прыслухоўвацца...

Што тычыцца выкарыстаньня агністрэльнае зброі, Закон "Аб міліцыі" -- у прыватнасьці ягоны артыкул 21 -- мае вычарпальны сьпіс выпадкаў, калі яно ёсьць дапушчальным. Па-першае, гэта абарона грамадзянаў і самаабарона ад нападу, які пагражае сьмерцю ці значным пашкоджаньнем здароўя, ці прадухіленьне гэткага нападу ці захопу зброі супрацоўніка міліцыі. На-ступнымі выпадкамі, калі прадстаўнікі праваахоўчых органаў маюць права "страляць на паразу" зьяўляюцца:

- вызваленьне заложнікаў;
- прадухіленьне грамадзка небясьпечных дзеяньняў, якія пагражаюць жыцьцю, здароўю ці маёмасьці людзей;
- затрыманьне асобаў, якія зьдзейсьнілі гэткія ўчынкі ды спрабуюць уцячы;
- прадухіленьне групавога ці ўзброенага нападу на органы ўнутраных справаў, аб'екты, якія ахоўваюцца, вайсковы альбо службовы нарад органаў унутраных справаў, а таксама нападаў на іншыя аб'екты, якія суправаджаюцца паджогамі, разбурэньнямі ды спробамі аваладаньня агністрэльнай зброяй;
- затрыманьне асобы, якая аказвае ўзброены супраціў; якая ажыцявіла цяжкае злачынства; якая бяжыць з-пад варты, а таксама ўзброенай асобы, што адмаўляецца выконваць законныя патрабаваньні аб здачы зброі, у тым ліку прадметаў, якія спэцыяльна прыстасаваныя дзеля нанясеньня цялесных пашкоджаньняў.







Закон забараняе ўжываць спэцыяльныя сродкі ды агністрэльную зброю супраць цяжарных жанчынаў з відавочнымі прызнакамі цяжарнасьці, малагадовых, а таксама інвалідаў з відавочнымі прыкметамі інваліднасьці. Аднак і ў гэтым правіле ёсьць выключэньне -- зброя ўсё-ж можа ўжывацца й супраць гэтых грамадзянаў, калі яны ажыцяўляюць узброены напад ці нейкія дзеяньні, што пагражаюць жыцьцю і здароўю іншых людзей.

Трэба памятаць, што любы грамадзянін, які пацярпеў ад неправамоцных дзеяньняў супрацоўнікаў міліцыі, можа зьвярнуцца са скаргай у вышэйстаячыя органы ўнутраных справаў, пракуратуру й нават суд. У выпадку, калі супрацоўнікі міліцыі сапраўды парушаць Вашы правы й законныя інтарэсы, орган міліцыі, які яны прадстаўляюць, абавязаны прыняць захады па аднаўленьні гэтых правоў, сплаціць шкоду, а таксама па патрабаваньні грамадзяніна публічна прынесьці прабачэньні.

За парушэньне законнасьці, злоўжываньне ўладай, перавышэньне службовых паўнамоцтваў, невыкананьне ці неналежнае выкананьне сваіх абавязкаў супрацоўнікі міліцыі нясуць дысцыплінарную, матэрыяльную, адміністратыўную ды крымінальную адказнасьць.

Аднак у нашай краіне, на вялікі жаль, гэтыя прыгожыя словы застаюцца ўсяго толькі фармулёўкамі з закону. На практыцы вельмі часта здараецца адваротнае. Не было яшчэ зафіксавана ніводнага выпадку, калі-б супрацоўнік міліцыі быў пакараны за парушэньне законнасьці (напрыклад, ужываньне фізічнай сілы) падчас разгону антыпрэзыдэнцкіх мітынгаў і мірных шэсьцяў. Скардзіцца на незаконныя дзеяньні супрацоўнікаў міліцыі амаль бескарысна. Зрэшты, гэтая тэндэнцыя мусіць быць парушана, калі мы сапраўды імкнемся да цывілізаванага прававога грамадства.